*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля

№ 206 (558)
Аўторак, 17 лістападa 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.



*Васіль ГРОДНІКАЎ*

# Страх і дыктатура чэрні

## Ці будуць калі-небудзь беларусы людзьмі звацца?

## 2. Каму жывецца весела, прывольна на Русі (Белай)?

**(Працяг. Пачатак у №205.)**

Мне падаецца, што ніводная краіна, нават надзвычай багатая, не можа дапусціць сабе такую раскошу, як дыктатура чэрні. Патураючы чэрні, мы аднойчы згубілі амаль усю айчынную інтэлігенцыю, нацыянальную культуру, мову, Бога і Божыя запаведзі. Замест гэтага выхавалі атэістычнага інтэлігента-хама, які ніколі не дбаў і не дбае пра чалавека, Айчыну, пра культуру, якую сам некалі знішчыў, бо па беднасці розуму свайго не мог дацягнуцца да яе ўзроўню. Планка агульначалавечых каштоўнасцей спаўзла так нізка, што інтэлігентамі сталі сябе лічыць тыя, хто адзін-два разы схадзілі культпаходам у тэатр, хто закончыў дзесяцігодку або інстытут, але так і не зразумеў, што такое культура, што такое інтэлігентнасць, этыка, эстэтыка, высокія маральныя якасці, прыстойнае выхаванне і правілы добрага тону. І такія "інтэлігенты" направа-налева хамілі, пускалі ў ход кулакі, брыдкасловілі, пілі і хуліганілі, нічога, акрамя дырэктыў партыі, не чыталі, не імкнуліся ўласнымі прыстойнымі паводзінамі даць прыклад іншым. Не стала бар'ерам гэтаму хамству і школа (у тым ліку і вышэйшая). Я ўспамінаю з'езд настаўнікаў. Не ведаю, як каму, а мне было балюча глядзець на "эліту" нашага грамадства. Там, дзе нармальнаму, выхаванаму чалавеку трэба было абурацца, яны апладзіравалі, калі варта было чырванець, яны смяяліся, супраць чаго трэба было рашуча выступаць і змагацца, яны тое прымалі аднагалосна як мадэль для пераймання. Я не думаю, што з'езд "эліты" прадстаўляў лепшую частку нашага настаўніцтва. Гэта хутчэй за ўсё быў з'езд выхавальнікаў чэрні, бо і яны самі на ўсю краіну ярка прадэманстравалі тыя рысы, якімі ў большасці сваёй надзелены іх выхаванцы — паднявольныя людзі, чэрнь.

Не ведаюць і не цэняць сёння цывілізаваных норм і выхаванцы вышэйшай школы, у тым ліку і людзі, што займаюць адпаведныя пасады ва ўладных структурах. Амаль усе яны бяруць горлам, на маць-перамаць, ціснуць на рычагі ўлады, калі яна ў іх ёсць, а калі няма, то бяруць, што называецца, локцямі і кулакамі. Ды і адкуль могуць з'явіцца тыя нормы цывілізаванай культуры, калі нават у школьных праграмах не надаецца належнай увагі выхаванню гэтых каштоўнасцей. Хамства, якое сёння распаўсюджваецца, як насмарк у халоднае надвор'е, прыстае да людзей, як сала да падэшвы. Большага прымітывізму інтэлігентнасці нельга адшукаць ані ў якой еўрапейскай краіне, апроч краін былога СССР. Што адбываецца на бытавым узроўні — гэтае агіднае смецце запоўніла ўсё наша навакольнае асяроддзе. Але ж яно забралася і на самыя ўладныя вярхі, што непакоіць надзвычай востра. Прыгадайце шматлікія разгоны дэманстрацый і мітынгаў, арышты і знявольванне іншадумцаў, хамскія адносіны да дэпутатаў-апазіцыянераў у Вярхоўным Савеце 12-га склікання і збіванне іх амапаўцамі ў сценах таго ж Вярхоўнага Савета. Хто зневажаў, хто збіваў, хто па-садысцку заламваў рукі і цаляў ботамі па нырках народных выбраннікаў? Можна іх назваць прадстаўнікамі органаў, якія прытрымліваюцца і цэняць цывілізаваныя нормы, калі яны не падпарадкоўваюцца ні законам, ні Канстытуцыі? Не! Гэта прадстаўнікі самай звычайнай чэрні, у якіх ад уласных амбіцый затуманьваецца розум, перамагаюць рысы статку, гены першабытнага чалавека! А прыгадайце нядаўні міжнародны скандал з высяленнем замежных дыпламатаў з рэзідэнцыі "Дразды"? А "інтэлігентныя" паводзіны нашага прэзідэнта ў Кран-Мантане? Знявагу ім Ельцына падчас справы Шарамета? А сама справа Шарамета, якая не вартая і выядзенага яйка, а колькі было шуму-тлуму? Ды ці толькі гэта?! Усё агіднае сёння па-ранейшаму прарастае ад старых бальшавіцкіх каранёў так званай пралетарскай культуры.

Інтэлігентнасць была і ёсць для шмат каго з кіруючай "эліты" нечым пачварным, буржуазным, непатрэбным. Чэрнь заўсёды варожа ставілася да інтэлігенцыі, культуры, яе прадстаўнікоў і носьбітаў. Чэрнь заўсёды ваявала супраць культуры. І цемната заўсёды перамагала, таму што выкарыстоўвала ў гэтай барацьбе нецывілізаваныя формы — тыя ж фізічную сілу, нахапістасць, нахабства, пагрозы і пагромы, нарэшце, рэвалюцыйныя пралетарскія метады... А культурай называлася тое, калі выціраюць далонню вусны, а рукавом — нос.

Чаму ўсплыло гэтае агіднае на паверхню нават у тых, хто лічыць сябе быццам бы інтэлігентным, культурным і нават дзяржаўным чалавекам? Пра чэрнь я ўжо не кажу. Яна і раней не вылучалася інтэлігентнасцю і культурай, а сёння тым больш. Заўважана, што чым менш адукаваны, культурны і выхаваны чалавек, тым вышэй дзярэ ён нос. А тым болей гэта адносіцца да тых, хто знаходзіцца пры ўладзе, незалежна ад вышыні службовых прыступкаў. Гонару — з кукішам не падступішся. Ведама, пусты колас высока галаву трымае...

І загана гэта вельмі жывучая. Успомнім, як Л.Талстой яшчэ 9 сакавіка 1906 года ў сваім дзённіку пазначыў адно са сваіх назіранняў за ходам першай рускай рэвалюцыі. Вось што ён запісаў: "Як ярка высветлілася на рэвалюцыянерах, калі яны пачалі захопліваць уладу, звычайнае дзеянне ўлады, якая разбэшчвае: ганарлівасць, гардыня, фанабэрыя і, галоўнае, непавага да чалавека..." Удумаемся, а ці не наглядаем мы сёння тое ж самае?

### Каб так смыкам, як языкам

Той-сёй можа сказаць: свабода для беларусаў, быццам культура для чэрні. Магчыма...

Тыя гадоў пяць, калі можна было адчуць свабоду, як той казаў, памацаць яе, гісторыя праглынула, як бусел жабу. Большасць, прытым большая частка насельніцтва Беларусі, варожа ўспрыняла свабоду, таму што на працягу вякоў звыклася з няволяй, прыгнётам, са сваім на ўскрайку месцам, дзе "сядзела Станіслава на ўсю лаву". І калі нацыі выпала магчымасць выбраць свой шлях да свабоды і незалежнасці, яна прагаласавала за прыгнёт, за гурт, за чужыя інтарэсы. Дзейнічала, мусіць, па прынцыпе: змяшаешся з людзьмі, сам будзеш — чалавек. Ад свабоды Беларусь пабегла, быццам жару ў жменю ўхапіла. Як тут не ўспомніць словы славутага філосафа М.Бярдзяева: "У новым савецкім чалавеку адбываецца не толькі дзіўнае ўмаленне свабоды, але знікае самы смак свабоды, самое разуменне таго, што такое свабода". Новы рэжым на Беларусі, пэўне, здагадваўся пра гэта, а таму пачаў правакаваць у народзе не лепшыя яго якасці. Пасля выбараў першага прэзідэнта нашай краіны свабоду замянілі на ранейшы страх. Нацыя вярнулася назад, у сваю звыклую савецкую каляіну. Людзей пацягнула назад, як п'яніцу да гарэлкі. Вядома ж, рэжыму гэтага хацелася, і ён без асаблівага старання вярнуў народ у "стойла". Што тут скажаш? Дзяўчыне вяселле, а бычку — смерць...

Мне часам думаецца: калі пазначыць варожасць беларусаў да свабоды як праяву "генетычнай непазбежнасці", то няйнакш можна прыйсці да высновы або тэорыі, што ёсць народы, якія няздольныя падняцца ў сваім існаванні вышэй рабства. Неверагодна!

Што "свеціць" беларусам такая ментальнасць ці славутая талерантнасць, можна зразумець, прачытаўшы толькі адну фразу М.Герцэна з яго роздумаў аб жахах эпохі Мікалая І: "Яшчэ адзін век такога дэспатызму, як зараз, і ўсе добрыя якасці рускага народа знікнуць". А дадайце сюды дэспатызм імператараў, што правілі да 1917 года, дыктатарскія рэжымы эпохі Сталіна—Брэжнева, і вам стане зразумелым, што адпаведныя ўздзеянні такога дэспатызму і дыктатуры ў поўнай меры спасціглі і беларускую нацыю. Вынікі векавых здзекаў яскрава праявіліся і ў час выбараў першага прэзідэнта краіны, і на абодвух рэферэндумах. Інтэграцыя, русіфікацыя, адсутнасць нацыянальнай годнасці і ўсведамленне сябе малодшым братам — гэта таксама вынікі дэспатызму, аўтарытарызму і дыктатуры патомкаў і носьбітаў бальшавізму на Беларусі.

**(Працяг на 2-й стар.)**

# Вот и дождались... очередей



*Вот такую картину можно нередко наблюдать нынче на минских улицах. Эта очередь выстроилась на тротуаре улицы Якуба Коласа возле "яичного" магазина. Люди часами мерзнут на улице, чтобы только попасть в магазин, где продаются яйца. Вот они, приметы "рыночного социализма".*

## Многія "ліквідатары" ўжо не спадзяюцца ні на кога

Вучоныя Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь правялі даследаванне сярод жыхароў Мінскай і Магілёўскай абласцей, якія бралі ўдзел ў ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Рэспандэнтам, у прыватнасці, было зададзена пытанне: "У ЯКІХ МЕРАХ САЦЫЯЛЬНАЙ ДАПАМОГІ ЦЯПЕР ВЫ БОЛЬШ ЗА ЎСЁ МАЕЦЕ ПАТРЭБУ?" Больш за палову з 440 апытаных "ліквідатараў" указалі на матэрыяльную дапамогу льготамі і даплатамі (72 працэнты), а таксама на лекі (53 працэнты). Практычна кожны другі (48 працэнтаў) мае патрэбу ў медыцынскай дапамозе і медыцынскім кантролі. 38 працэнтаў рэспандэнтаў звярнулі ўвагу на неабходнасць санаторнага аздараўлення.

Больш за палову — 57 працэнтаў — з тых, хто адказваў на пытанне "НА ЧЫЮ ДАПАМОГУ Ў ВЫРАШЭННІ СВАІХ ЖЫЦЦЁВЫХ ПРАБЛЕМ ВЫ РАЗЛІЧВАЕЦЕ?", указалі "на свае ўласныя сілы". 18 працэнтаў "ліквідатараў" разлічваюць на падтрымку сваякоў і сяброў. Такая ж колькасць — 18 працэнтаў — не спадзяюцца ні на кога. На дапамогу рэспубліканскіх улад разлічваюць 16 працэнтаў апытаных, а на дапамогу мясцовых улад — 9 працэнтаў.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ,**
**БелаПАН.**

Личный взгляд

*Михаил ПОДОЛЯК*

*Зиму-98 белорусский президент, говорят, встречает в весьма скверном расположении духа. Судя по всему, его все настойчивей отсекают от российских выборов. Внешнеполитическая активность не пошла дальше мифической интеграции с Югославией и провальной межпарламентской сходки в Ярославле. К тому же, несмотря на полный информационный и пропагандистский диктат, белорусский народ отказывается верить в громогласные "статистические" победы, созерцая пустые прилавки и дырявые кошельки. Президент должен придумать нечто эдакое, чтобы в очередной раз отвлечь свой народ от крамольных мыслей.*

# Худо, братцы, нашему президенту...

Октябрьская инфляция составила чуть более 21 процента в месяц. В магазинах вовсю ощущается товарный дефицит. На носу очень холодная зима, поэтому никаких особо размашистых зрелищ с пропагандистской подоплекой не проведешь. Люди не хотят выходить даже на профсоюзные митинги в знак протеста против резкого обнищания и падения жизненного уровня.

Возможно, это объективные трудности слишком уж затянувшегося перехода от социализма номенклатурного к социализму рыночному. Быть может, в происходящем сегодня очередном обнищании Беларуси виноваты западные демократии и российские евреи. Как всегда в подобных случаях. Жаль, что у нас нет собственного генерала-антисемита А. Макашова, способного творить врагов буквально из подножного материала. Тем не менее пятый год правления Александра Лукашенко все более напоминает начало предперестроечной агонии. Проблема терпимости белорусского народа рано или поздно будет решена не в пользу популярного ныне президента.

Голодных бунтов, равно как и еврейско-буржуйских погромов, скорее всего республика не увидит. Но жарко будет, поверьте на слово, — наружу полезет вся, так сказать, рабочая и селянская культура президентского электората. Ведь, по большому счету, это люди, что называется, простые, светским манерам не обученные, политических университетов не кончавшие и свои проблемы привыкшие решать не словом, а кулаком.

Не зря, наверное, нынешнее республиканское руководство пребывает в состоянии легкой паники. Что-то разладилось в ноябре и идет не совсем так, как планировал сам Александр Григорьевич. Во-первых, в самой Беларуси так и не удалось построить "государства всеобщего благосостояния". Да и недовольных "сирыми" перспективами день ото дня становится все больше. Во-вторых, до сих пор якобы существует великая неопределенность с планами Александра Лукашенко относительно московского царствования. Нет, сам белорусский президент вряд ли отказался от честолюбивых замыслов — ведь российское президентство позволило бы ему, по крайней мере, показать буржуйскому западу настоящую "кузькину мать". Уж он бы с ними поговорил! Понятное дело, разница между президентом карликовой, технологически отсталой республики и президентом ядерной и политически агрессивной супердержавы слишком чувствительна для мягкотелой западной дипломатии. И даже столь частые самовыдвижения в президенты — от Ю. Лужкова до Г. Селезнева — нисколько не поколебали его уверенности в благоприятном исходе будущих выборов. Но наполеоновским планам ощутимо могут помешать бывшие союзники Лукашенко — российские "левые" из народно-патриотического блока. Именно Зюганов со товарищи развернул сегодня беспримерную борьбу не столько с нынешним президентом Ельциным, сколько с президентским институтом вообще. Коммунисты все более настойчиво предлагают пересмотреть российскую конституцию с тем, чтобы поначалу урезать полномочия действующего президента до минимума, а затем и вовсе вернуться к коллегиальной форме высшего государственного управления. Что ж, коммунистов понять несложно — у них пока нет единства по кандидатуре будущего президента. А даже если бы оная и была в наличии, далеко не факт, что именно коммунистический выдвиженец получил бы скипетр и державу. Иное дело — конституционная гегемония КПРФ. Само собой, нашего президента такой расклад ни в коей мере не устраивает. Ну а что он, сиднем сидя в провинциальном Минске, может поделать с зюгановской авантюрой?

Еще большую опасность для белорусского руководства таит намерение российского вице-премьера Юрия Маслюкова предложить Государственной Думе на рассмотрение очень жесткий бюджет-99. Пока ни сами россияне, ни тем более аналитики белорусского президента не осознали, что сие намерение значит для гордой республики. По сути, Беларусь просто-напросто могут отцепить от дотационного поезда и куда как настойчиво попросят своевременно и до копейки рассчитываться за энергоносители и прочее российское сырье. И рассчитываться придется не хитроумными кредитно-бартерными сделками, а полновесными... американскими долларами. Тут уж никакими парадными речами о славянском братстве не обойдешься. А что такое белорусская экономика без российского сырьевого кредита, понятно даже Александру Григорьевичу...

До последнего времени неплохой пропагандистский дивиденд приносили яркие внешнеполитические скандалы. АнтиНАТО, славянское единство, заговор послов, отстранение Беларуси от европейских коллегиальных структур, шпиономания и т.д.

Впрочем, внимательный наблюдатель не мог не заметить, сколь стремительно канула в небытие шумиха вокруг Югославии — последняя внешнеполитическая находка Минска. По мере того, как ситуация в Косово более-менее стабилизировалась и мировая общественность поостыла, Беларусь лишилась очень сильного пропагандистского козыря. И оказалось, что занять общественный разум больше нечем — российско-белорусская интеграция буксует, сама Россия увлечена конфликтом вокруг компартии и ее отдельных членов, сербы потихонечку договариваются с жителями Косова и миротворцами.

Вот оно, долгожданное время откровения для А. Лукашенко — он остался наедине с экономической катастрофой в собственном государстве. Откровенно проброшенный различными российскими партнерами, наобещавшими с три короба и враз сгинувшими, почуяв бесполезность белорусского президента. Теперь действительно можно испугаться. Надо бы еще "подкрутить гайки", но государство и так контролирует почти всю экономику, контрольно-репрессивный аппарат развит основательно и действует на полную катушку, оппозиция и своя, и забугорная сидит тише воды.

Как говорится, самое время для изобретения новой всепоглощающей идеи. По словам весьма информированного источника из президентской Администрации, что-то похожее на очередную "потемкинскую" кампанию уже затевают в Минске. Определенные силы в ближайшем окружении подрастерявшегося Лукашенко весьма увлечены сегодня проработкой сценария возможного усиления регионального сепаратизма в России. На первый взгляд парадоксальная идея, по трезвому размышлению представляется вполне здравой. Так, в случае если коммунистам все же удастся провести в жизнь план по "укорочению полномочий президентской власти", как выразился российский депутат Виктор Илюхин, может быть инициирована имитация распада российского государства на отдельные регионы. Впрочем, распада как такового может и не быть вовсе, сплошная торговля. Но, как говорится, всегда нужна объединяющая и направляющая сила. Правда, вопрос в том, зачем самому Лукашенко раздробленная Россия? Вряд ли через год-другой после распада удельные князьки захотят объединиться в некое славянское братство, пусть даже во главе с самым "старым" (как-никак белорусскому суверенитету 7 лет) славянским государством? Да и денег это стоит немалых.

Сумна

## Год за кратамі правёў у следчым ізалятары двойчы Герой Сацыялістычнай працы Васіль Старавойтаў

Па просьбе Васіля Канстанцінавіча яго адвакат Вера Страмкоўская ў дзень "юбілею" накіравала ў суд хадайніцтва аб змяненні меры стрымання свайму падабароннаму на падпіску аб нявыездзе. Здавалася б, за той час, які мінуў з дня арышту былога старшыні аграпрамысловага аб'яднання "Рассвет", двойчы Героя Сацыялістычнай Працы 74-гадовага Васіля Старавойтава, можна ўжо паставіць усе кропкі над "і". Тым больш што аўтарытэтныя прадстаўнікі Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, у тым ліку і генпракурор Алег Бажэлка, неаднойчы заяўлялі, што следства па справе Старавойтава завершана і ён знаёміцца з матэрыяламі.

За год стан здароўя В.К.Старавойтава значна пагоршыўся. Нездарма ж адвакат Вера Страмкоўская не раз ставіла пытанне аб змяненні меры стрымання свайму падабароннаму.

Наведаўшы В.К.Старавойтава ў "юбілейны" дзень, Страмкоўская прапанавала яшчэ раз "рызыкнуць" — падаць хадайніцтва ў суд Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці аб змяненні меры стрымання падследнаму ў сувязі з яго дрэнным самаадчуваннем і працяглым знаходжаннем пад вартай. Застаецца толькі спадзявацца, што судовыя ўлады пойдуць насустрач старому чалавеку.

Менавіта праз год, літаральна за некалькі дзён да "юбілейнай" даты крымінальная справа на экс-старшыню "Рассвета" перададзена для разгляду ў суд Кіраўскага раёна.

Паводле слоў В.Страмкоўскай, настрой яе падабароннага палепшыўся, ён разлічвае на добрую сустрэчу ў сваім раёне з былымі саслужбоўцамі і спадзяецца даказаць сваю невінаватасць. Бо дома, як вядома, і сцены дапамагаюць.

Як вядома, В.К.Старавойтаву прад'яўлена абвінавачванне ва ўчыненні быццам бы шэрагу злачынстваў аж... па дзесяці артыкулах Крымінальнага кодэкса. Аднак да сённяшняга часу, па звестках жонкі Старавойтава Валянціны Мікалаеўны, вінаватым сябе ён прызнае толькі часткова. І то — па двух артыкулах.

Згодна прагнозам адваката, судовае пасяджэнне па справе В.К.Старавойтава пачнецца няхутка, мабыць, толькі к канцу снежня, бо судоваму следству таксама трэба разгледзець вялікі аб'ём матэрыялаў з гэтай "нашумелай справы".

**Віктар СВІРКО.**

Эхо скандала

## ЛДП антисемитизм российского генерала осудила. А как относятся к высказыванию Альберта Макашова другие белорусские партии?

Пресс-служба ЛДП сообщила, что делегация Либерально-демократической партии Беларуси не будет участвовать в работе съезда российского левоцентристского блока, проведение которого назначено на 21 ноября 1998 года в Москве.

Белорусские либералы считают невозможным для себя находиться в одном зале с депутатом Госдумы от фракции КПРФ Альбертом Макашовым после его антисемитского заявления.

К сожалению, ни российские коммунисты, ни российский парламент антисемитские высказывания генерала Макашова не осудили.

**Никита ПИГУЛЬ.**

## У Беларусі створаны Нацыянальны грамадскі арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы мерапрыемстваў, звязаных з наступленнем 2000 года

З ініцыятывай рэалізацыі праграмы "Беларусь-2000" выступіла Аб'яднанне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Як паведаміла БелаПАН старшыня Рады "Бацькаўшчыны" Ганна Сурмач, у склад аргкамітэта ўвайшлі 35 прадстаўнікоў большасці ўплывовых грамадскіх арганізацый рэспублікі і асобныя дзеячы. Сярод іх — народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч; паэт, старшыня Таварыства беларускай мовы Генадзь Бураўкін; пісьменніца Вольга Іпатава; пісьменнік, прэзідэнт фонду "Беларускі кнігазбор" Кастусь Цвірка; дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны, прафесар Адам Мальдзіс; старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп і некаторыя вядомыя вучоныя. Сустаршынямі аргкамітэта абраны прэзідэнт "Бацькаўшчыны" акадэмік Радзім Гарэцкі і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, драматург Аляксандр Петрашкевіч.

**Марат ГАРАВЫ.**

## О преступности — языком цифр

Почти из 17,5 тысячи преступлений, зарегистрированных в Минске в течение десяти месяцев 1998 года, правоохранительными органами раскрыто около 75 процентов. Ежесуточно в городе регистрируется в среднем 58 преступлений, большинство из которых относится к компетенции уголовного розыска.

По информации, полученной БелТА в Главном управлении внутренних дел Мингорисполкома, рост преступности по сравнению с тем же периодом прошлого года отмечен в трех районах столицы — Московском, Фрунзенском и Октябрьском. Особую тревогу вызывает увеличение подростковой преступности. В Московском районе, например, рост количества правонарушений со стороны несовершеннолетних составил 37 процентов.

Наиболее эффективно велась работа по раскрытию тяжких преступных посягательств, злостных хулиганств, краж и угонов автомобилей. С начала года сотрудники уголовного розыска раскрыли почти 70 процентов из зарегистрированных уголовных преступлений. Статистика свидетельствует об уменьшении числа умышленных убийств, разбойных нападений, грабежей и краж из квартир граждан.

# Страх і дыктатура чэрні

## Ці будуць калі-небудзь беларусы людзьмі звацца?

## 2. Каму жывецца весела, прывольна на Русі (Белай)?

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)**

Сум па "моцнай руцэ", "цвёрдай уладзе", "бацьку", якія, на думку многіх, могуць захінуць іх ад пастылай "дэмакратычнай завірухі", за адну летнюю ноч 1994 года ператварыўся ў радасць, трыумф значнай часткі нацыі. Яны абралі таго і тое, што, на іх думку, забяспечыць ім душэўны спакой, аднолькавае для ўсіх жыццё, шчаслівую камуністычную будучыню з таннай каўбасой і шклянкай "сівухі" на кожны дзень. Памятаеце, колькі напачатку было радасці, ажыўленых размоў, гарачых спрэчак і салодкіх спадзяванняў на лепшае жыццё? Усе верылі, што новы "Робін Гуд" выведзе краіну з крызісу, адновіць няхай сабе і не дужа эфектыўную работу фабрык і заводаў, падніме калгасы і саўгасы, дасць такі-сякі заробак, танную каўбасу, удосталь мяса, малака і хлеба. Адным словам, чэрнь была на сёмым небе ад шчасця! Пасля яшчэ вельмі доўга, развесіўшы вушы, слухала і верыла хлусні пра тое, што прэзідэнту перашкаджаюць наладзіць лепшае жыццё Вярхоўны Савет 12-га і 13-га склікання, БНФ і іншая апазіцыя, НАТА, ЦРУ і г.д. А потым, калі ўжо не стала каму "шкодзіць", а апазіцыю, па словах самога прэзідэнта, "варта насіць на руках", стала відавочным для шмат каго з больш-менш разумнейшых электаратчыкаў: кволае цяля і сярод лета зябне. І тады, каб падняць настрой у электарата, уключылі дзяржаўна-статыстычны "патэфон", які пачаў спяваць вельмі аптымістычныя песні пра беларускі "эканамічны цуд" і небывала высокі рост на ўсіх без выключэння напрамках, у тым ліку і паляпшэнні жыццёвага ўзроўню насельніцтва Беларусі. Стварылася ўражанне, што мы ў трох кроках ад некалі абяцанага камунізму. Яшчэ і сёння ад гэтага "патэфона" праз гучнае і трывожнае шыпенне расійскага абвальнага крызісу даносяцца да нас бравурныя маршы аб пасляховай устойлівасці беларускай эканомікі. І гэта ў той час, калі мы па самыя вушы сядзім у багне ўласнага эканамічнага і палітычнага крызісу! Сёння наша эканоміка выглядае гэтак жа прывабна, як крапіва каля плоту, а ўсе мы круцімся-верцімся, як голыя, у гэтай пякучай траве.

Праўда, тое, што адказныя работнікі прэзідэнцкай "вертыкалі" і паслухмяныя ім СМІ ў гэтых маршах, там, дзе трэба сказаць па-шчырасці пра сапраўднае становішча спраў у нашай краіне, уключаюць "глушылку" і тады не чуваць простаму чалавеку, што ў апошні час выкінута дзесяткі трыльёнаў "заячьего помёта", г.зн. пустых грошай, што, безумоўна, прымусіць скакаць інфляцыю гэтак жа, як кот на гарачай бляхе. На склады напхана пад самую завязку гатовай прадукцыі, якую ніхто не хоча купляць з-за нізкай якасці і дарагіх цэн. Тое-сёе, праўда, удаецца каму-небудзь упіхнуць бартарам замест грошай за камплектуючыя, сыравіну, паліва і іншыя тавары. А цяпер, пэўне, і гэтага не ўдаецца, бо эшалонамі ідуць не тавары, а нашы харчы ў Расію за даўгі. У краіне катастрафічна не хапае грошай, адсутнічаюць належныя інвестыцыі, ніхто нам нічога не пазычае. 90 працэнтаў абсталявання, як ужо было сказана, хоць сёння выкідвай на сметнік, бо яно фізічна і маральна ўстарэла і на ім нельга вырабіць канкурэнтаздольную прадукцыю. Вобразна кажучы, можам рабіць лапці замест красовак! Улады стараюцца трошкі падфарбаваць катастрафічнае становішча ў сельскай гаспадарцы, нічога не гавораць пра прыгоннае права на вёсцы. Наадварот, бывае, што і пахваляюцца: "Нягледзячы на недахопы, якія дзе-нідзе яшчэ не ліквідаваны, краіна выпускае на столькі-та працэнтаў больш прадукцыі... Няспынна расце ўнутраны валавы прадукт, павышаецца жыццёвы ўзровень людзей... Растуць інвестыцыі, бо шматвектарная палітыка прэзідэнта дае плённыя вынікі..." Ну, хто з разумных людзей сёння можа паверыць у гэтую лухту? Такая "зацірка" прызначана для чэрні. Ёй думаць не трэба: людзі дзесяцігоддзямі прывучаны верыць таму, што сказалі па радыё, тэлебачанні, напісалі ў дзяржаўных газетах. Усё тое для іх — святая праўда. А калі хто-небудзь пачне самастойна аналізаваць і выказваць сваё меркаванне ды яшчэ выпісваць апазіцыйныя газеты, гэта расцэньваецца прывяднымі рамянямі як "крок управа, крок улева"... І будуць на дзяржаўнай "кухні" і надалей гатаваць гэтую "зацірку", бо чэрнь з'ядае яе разам з "кіслародным кактэйлем" поспехаўбурбалак. І па-ранейшаму будуць хваліцца прэзідэнт і следам за ім урад аб паўсядзённых сваіх клопатах пра лепшае жыццё сваіх падданых. Але сёння нават дурню зразумела: што атрымліваецца інакш: прэзідэнт, урад і іх атачэнне сталі жыць лепш, людзі — горш.

Дзе ж тыя людзі будуць жыць лепш, калі замест абяцанага прэзідэнтам скарачэння на адну трэць дзяржаўнага чынавенства няўмольна размнажаюцца прэзідэнцкія "апрычнікі" ў органах кіравання, унутраных органах, органах кантролю, аховы прэзідэнта і ягоных падтаквальнікаў, органаў дзяржаўнай бяспекі і бяспекі самога прэзідэнта. А што робіцца з міліцыяй, унутранымі войскамі, арміяй, іншымі ваенізаванымі падраздзяленнямі?! Хутка колькасць асабовага складу гэтых "органаў" зраўняецца з колькасцю рабочых і служачых, занятых у прамысловасці. Дзе ж тыя рабочыя, калгаснікі, прадпрымальнікі, бізнесмены і "чаўнакі" здолеюць пракарміць сваімі падаткамі такую ненажэрную колькасць нахлебнікаў? Адкуль быць тым прыстойным зарплатам, пенсіям, стыпендыям, дапамогам інвалідам і шматдзетным маці, калі бюджэт абгрызае такая агромністая калонія дзяржаўных "прусакоў"?! Няўжо так напалоханы прэзідэнт, урад, службы бяспекі дзяржавы, што неабходна бачыць у кожным грамадзяніне ворагаў рэжыму, небяспечнасць для канстытуцыйнага ладу краіны. Дакуль жа будуць смактаць усе гэтыя прыстасаванцы бюджэтную "кароўку"? Аб гэтым ужо столькі гаворана-пераговорана, а прэзідэнту быццам хто вушы ватай заткнуў.

А пэўна, да таго часу, пакуль чэрнь не зразумее аднаго: страх перад "смактунамі" заўсёды знішчае тыя чалавечыя якасці, якія абараняюць самога чалавека ад спакусы ўлад зрабіць яго ціхай, пакорнай і ў дадатак баязлівай істотай. Танная каўбаса, мізэрная зарплата, сівушная "гара", ленасць думаць і разумець, уласцівасць па-дзіцячы ўспрымаць хлусню за праўду — усё гэта для чэрні, як для ката рудая мыш. Нездарма ж народная мудрасць папярэджвае: не чыніся бараном — ваўкі з'ядуць.

Аднак хоць адно спадзяванне чэрні — мець "цвёрдую руку" — спраўдзілася. Адкінуўшы ў бок ленінскі запавет пра тое, што працаваць трэба не за страх, а за сумленне, прэзідэнту з яго калгасна-саўгаснай падрыхтоўкай гэта было не па душы. Ён, выкарыстоўваючы набыты ў саўгасе вопыт, нацягнуў лейцы, наматаў іх на адну руку, у другую ўзяў нагайку. А адбылося на самай справе вось што: не чакаў новы сюзерэн, што фартуна возьме ды павернецца да яго сваім аблічам. Ад такой неспадзяванкі ўладыку прыйшлося спешна, у пажарным парадку ляпіць сваю кіруючую каманду. Багаж жа падрыхтоўкі былога дырэктара адстаючага саўгаса для такога высокага прэстолу нагадваў расу перад спякотным днём. Што ні кажыце, а ля ног дырэктара саўгаса ўжо ляжала цэлая краіна з дзесяцімільённым насельніцтвам, а не маленькая шклоўская арцель п'яных мужыкоў і баб...

І спудзіўся не конь, а коннік. Пэўне, спачатку думалася: самога Бога за бараду пацягаю. Але калі праблемы накаціліся "дзевятым валам" і ад "цунамі" не было ніякага ратунку, тады спешна трэба было шукаць прычыны, таму што абяцанні, дадзеныя кандыдатам ў прэзідэнты, лопаліся, як мыльныя пухіры. Народ (у тым ліку і частка чэрні) спакваля пачаў чухаць патыліцу: нешта тут не так. Здаецца, і клапоціцца прэзідэнт пра людзей: то зарплату трошкі падніме, то да пенсіі якую-небудзь драбніцу падкіне, то быццам бы супраць павышэння цэн... А калі пачалі больш уважліва прыглядацца, то ўсё інакш выходзіла: наедку, як з рака. А прэзідэнт усё не стамляўся шукаць вінаватых. Дзіва што: каб Кандрат ды вінават — у яго Агата вінавата! А што ўжо наабяцае, нарасказвае свайму электарату, то сам Гарбачоў яму ў падпаскі не варты: усе дубы ў нашым лесе толькі смалянымі растуць! Во, каб так смыкам, як языкам!

А мне, між іншым, успомнілася...

### Муха ў смале

Неяк, яшчэ не пачатку аднаўлення купленай недагарэлай хаты ў Мазалях, я папрасіў нашага вяскоўца Івана Карэньку скласці грубку. Пячнік ён знатны, адзін такі на акругу. Я дапамагаў яму і тым часам прыглядаўся. І падалося мне, што печ класці — не гаршкі абпальваць. І вырашыў я, што пліту на кухні магу скласці сам. І здаецца, усё ішло ладам-складам. Калі праз тыдзень усё было гатова, я, шчаслівы, запаліў пліту. І якое было маё здзіўленне і расчараванне, калі яна так задыміла, што дым з хаты хоць мяшкамі вынось! Апасля ўжо, можа, цэлы тыдзень Іван Карэнька разбіраў і збіраў зноў маё "тварэнне". Нарэшце, хоць яно звонку і не пацярпела ніякіх змен, але пліта ад цягі аж загудзела, добра абагравала ўсе тры пакоі. І цяпер я кожны раз, падпальваючы пліту, добрым словам успамінаю майстра. Упэўніўся я, што печ класці павінен не аматар, а сапраўдны майстар. Не кожны, хто мае рукі, цэглу, гліну і кельму можа стаць здольным пячніком, з талентам, Богам надзеленым.

І яшчэ я заўважыў за Іванам Карэнькам такую важную дэталь: ён не хаяў цэглу, што была выраблена ледзь не за польскім часам, не бракаваў гліну, не крычаў на мяне, падручнага, не лаяў завод, што выабляе нязручныя кельмы і дзверцы з завесенцамі. Сапраўднаму майстру падпарадкоўваецца ўсякі матэрыял, інструмент, любы памагаты. Майстар творыць натхнёна, упэўнена і спакойна, дакладна ведаючы, што робіць і што выйдзе з-пад яго таленавітых рук.

Так павінна быць і ў палітыцы. Усё залежыць ад таго, ці ўдыхнуў Бог у душу чалавека адпаведны дар. Калі абмінуў ён яго сваёй міласцю, то ў чалавека ўсё будзе выходзіць праз пень-калоду. І няхай ён будзе старацца, імкнуцца зрабіць больш і лепш, пра такога чалавека людзі кажуць:

— Стараецца, як муха ў смале...

Вось вам быль што прытча, якая, спадзяюся, можа сказаць вам больш, чым красамоўныя прыклады з жыцця і дзейнасці герояў і персаналіяў "генератарнай станцыі". А можа, і навядзе на адпаведны роздум...

### Яшкавы самакруткі

Бадай, няма на свеце большай спакусы, як любавацца сабой, адчуваць, што ты — моцны, прыгожы, разумны і ўсімі паважаны чалавек. Гэта на самай справе так, хоць ніхто прылюдна пра такое гаварыць не адважваецца. Але на свеце без выключэнняў не бывае...

Хачу папярэдзіць, каб ніхто з вас, паважаныя чытачы, героі і персанажы майго апавяду, не крыўдавалі. Можа стацца так, што каго-небудзь назаву персанальна, а хто сам сябе пазнае, але не думайце кепска пра аўтара. Я ўсё гэта раблю з добрай душой. Няхай у кожнага з вас злосць не замінае розуму, а сэрца не ўстрапянецца гневам. Хочацца, каб тыя людзі трошкі паглядзелі на сябе быццам бы з боку, вось як я зараз на вас, і разам са мной спакойна паразважалі над дрэннымі ўчынкамі, памылкамі, паводзінамі. Буду спадзявацца, што такі роздум пойдзе на карысць. Падумайце самі: калі адзін чалавек зычыць другому чалавеку толькі дабра, хіба ж можна на яго крыўдаваць, а? А таму кожнаму, каго нават і балюча закране мой артыкул, жадаю, каб вам лёгенька ікнулася, бо гаварыць з вамі я буду, як салавей з зязюлькаю.

Днямі я пачуў ад аднаго майго суседа надзвычай трапную прыказку: "Паедзем, бабка, у суседняе сяло, то будзем ведаць, што ў нашым робіцца".

А прыйшлася яна мне даспадобы па той прычыне, што, чытаючы артыкулы, надрукаваныя ў замежнай прэсе, у нашых незалежных выданнях, гледзячы перадачы па расійскіх дзяржаўных і незалежных каналах ды яшчэ, апроч гэтага, у хаце несціхана працуе свая радыёскрыначка-"брахалаўка", — ведаю пра нашу "вёску" шмат чаго, не выязджаючы са свайго падворку. У маім узросце жыццё навучыла мяне сяк-так адрозніваць хлусню ад праўды, а таму, трэба спадзявацца, у мяне будзе тое ж, што і ў дзяржаўных СМІ, але трошкі другім бокам.

Выбралі мы сабе прэзідэнта такога, якога хацелі. Без асаблівага ашуканства. Не тое, што падчас апошніх рэферэндумаў. Хто ведае, ці будзе яшчэ так... Асабліва тады стараліся старыя. А цяпер, як той казаў, з адной губы і холадна і горача. Адна частка па-ранейшаму гатова пакласці за цяперашняга прэзідэнта сваё жыццё (нажыліся "шчасліва" — хопіць), а для іншай часткі старога электарата — ветэранаў вайны, пенсіянераў, кабет, што раней вачэй ад прэзідэнта адарваць не маглі, партрэты не толькі ў кухнях, але і ў спальнях панавешвалі, — нешта апошнім часам прэзідэнт для іх зяцем стаў пахнуць. Кажуць: ні жару, ні попелу.

Дакладна не ведаю, ці ёсць у нашага прэзідэнта розныя там іміджмейкеры, эстэтаманы і іншыя "маны", што "прычэсваюць" былога дырэктара саўгаса, каб хоць трошкі змахваў на кіраўніка дзяржавы. Пэўне, ёсць. А калі так, то трымае ён іх пад "каблуком", бо тыя няйнакш баяцца параіць яму шмат чаго не рабіць прылюдна. Інтэлігентнаму, культурнаму чалавеку адразу кідаецца ў вочы, што ў нашага кіраўніка кепскае выхаванне. Яно, як тая аліва, кожны раз выплывае на паверхню, калі "бацька" пачынае адрывацца да паперкі. А яго хлебам не кармі, а дай пагаварыць па-свойску, папрасцецку са сваімі падданымі на колішняй калгасна-старшынскай трасянцы і абавязкова перад тэлекамерамі, мікрафонамі, быццам знарок хоча падкрэсліць: ён свой "у дошку", родам з вёскі, ад зямлі. Ну, няхай бы калякаў з электаратам, як яму захочацца, але без мікрафонаў і тэлекамер. Для прэзідэнта гэта часам недапушчальна, бо сваімі непрадуманымі дзеяннямі, выказваннямі, нізкімі культурай, выхаваннем, інтэлігентнасцю і інтэлектам ён дэманструе на цывілізаваным узроўні ступень культуры ўсёй нацыі. Не буду вам нагадваць пра брыдкаслоўі, непрыстойныя для прэзідэнта выкрыкі, выслоўі ў адрас дэмакратаў і сваіх апанентаў, пра жорсткасць у абыходжанні з колішнімі сваімі аднадумцамі і людзьмі, што дапамагалі яму ўзабрацца на высокае прэзідэнцкае крэсла. Пра забароненыя ў дыпламатычнай практыцы знявагі і катэгарычныя выказванні ў адрас замежных кіраўнікоў і іх прадстаўнікоў, што знаходзяцца ў нашай краіне і спагадліва дапамагалі і дапамагаюць бедным беларусам каму вопраткай, каму харчамі, каму медыкаментамі...

Уявіце сабе: прыносіць вам, беднаму і хвораму чалавеку, сусед вядзерца маладой бульбы і гарлачык малака, бо ў вас галодныя дзеці і ён ад шчырай душы спачувае вашаму становішчу. А вы яму: я бульбу і малако вазьму, але табе скажу, што ты гэтакі-прагэтакі ды яшчэ зверху на маць-перамаць... Што сусед пасля гэтага і вока не кіне на ваш падворак — гэта зразумела. Але ў бедалагі дзеці пухнуць з голаду...

Дарэчы, пра дзяцей... А ці ўяўляеце вы сабе такое: гаспадар вашай шматдзетнай сям'і, якая перабіваецца, як кажуць, з хлеба на квас, бярэ з сямейнага бюджэту ладную суму грошай і ўсе іх прадувае ў двары ў "ачко" або прэферанс. Няйнакш у вас жаўлакі на скронях загуляюць, крывяны ціск паднімецца, хуценька на язык лягуць патрэбныя ў такіх выпадках неласкавыя словы, рукі зачэшуцца і пальцы сціснуцца ў кулак... А прэзідэнт са сваёй кампаніяй узяў з нашай "сямейнай шкатулкі" ладную торбу долараў і махнуў на край свету — у японскі горад Нагана на два тыдні, каб зімовыя Алімпійскія гульні паглядзець ды самога сябе азіятам і іншаму свету паказаць. Вярнуўся, вядома, без капейкі ў кішэні. І ніхто з нас, апроч апазіцыі і незалежных друкаваных выданняў, і слова не сказаў. А не сказалі, то, пэўна, кіраўніку нашаму падалося, што электарат такія паводзіны падтрымлівае. І ён пасля гэтага запрасіў у Беларусь парламентарыяў з усіх краін СНД пагуляць у... футбол. І добрак-такі пагулялі. За наш з вамі кошт... Зноў ціха. Тады ён падбухторыў айчынных падшыванцаў на спартыўныя гульні ў хакей. Пераможцам — замежныя каляровыя тэлевізары, камп'ютэры, музычныя цэнтры, іншыя дарагія прызы. Сёй-той кажа: добрая справа, падлеткаў трэба адвучваць ад вуліцы. Цалкам падзяляю такую думку! Але пры нашай агульнанацыянальнай беднасці ці не хапіла б хлапчукам па Ганаровай грамаце ад самога прэзідэнта краіны?! Думаю, што гэтага было б досыць аж пад самую завязку: пераможцы захавалі б такую паперу на памяць, паказвалі б дзецям, унукам...

На маёй радзіме, на Рагачоўшчыне, быў такі выпадак. Сусед наш, Яшка, прыйшоў на пасядзелкі "пад градусам". Пагуляўшы трохі, захацелася яму закурыць, а газеты на самакрутку не знайшлося. Тады ён дастаў з кішэні чырвонец, звярнуў "казіную ножку", насыпаў туды самасаду і закурыў. Размоў пасля гэтага было на ўсю вёску. Гэта ж трэба так! У Яшкі чацвёра дзяцей на адной бульбе ды кіслым малацэ сядзяць, апрануць-абуць няма чаго, а бацька самакруткі з грошай курыць! Сёлета ездзіў у родную вёску. Яшчэ памятаюць землякі той выпадак, хоць Яшка даўным-даўно парыць зямлю. Пэўне, на тым свеце і сёння яшчэ адрабляе ў смалакурні той грэх...

А наш жа прэзідэнт не з панскага роду, а з беднай сялянскай сям'і, падпаскам гора зведаў, на нішчымніцы вырас, а, бачыш ты, таксама любіць пашыкаваць і пакуражыцца, як той Яшка...

І вось з гэтай інтэграцыяй носіцца, аж да змору ўсіх давёў. І нават цяпер, калі Расію накрыў страшэнны крызіс, калі там галовы забіты іншымі неадкладнымі справамі, наш "бацька" зноў пабег на "пажар" са сваёй любімай песняй "Давай никогда не ссориться...", гэта значыць, пра інтэграцыю. Маўляў, калі абагулімся, то крызіс ваш не такім цяжкім пакажацца. Дзівак! Ну, ці ж дапаможаш суседу, у якога хата згарэла, тым, што ты сваю падпаліш? Але ж гэтая гульня ў інтэграцыю, нягледзячы на беднасць і нястачу, гэтак захапіла нашага прэзідэнта, што ён нават не разумее таго, што, акрамя агромністай арміі чыноўнікаў, міліцыянатаў, вайскоўцаў, кантралюючых органаў, нам ужо не пад сілу трымаць і надбудовы "Саюза двух". Нават на самым вярхоўным узроўні шмат хто лічыць гэтыя гульні адхіленнем ад нармальных паводзін людзей, што займаюцца такой важнай справай, як палітыка. Калі далікатна сказаць, то гэта забава дарослых мужыкоў. А гэтыя ж надбудовы каштуюць немалых грошай: сотні чыноўнікаў засялілі ў тыя надбудовы і кожнаму з іх паклалі добрыя "бабкі" на зарплату і разжытак. Адным словам, гульня, якая не апраўдвае згарэўшых свечак...

**в.Мазалі Маладзечанскага раёна.**

**(Працяг у наступным нумары.)**

## И стан устал

Началась реконструкция стана 320/150 сортопрокатного цеха на Белорусском металлургическом заводе. Уникальность операции заключается в том, что впервые не только в Беларуси, но и в странах СНГ она будет проходить за счет долгосрочного консолидированного кредита, который предоставили предприятию польская страховая компания "Кука", германская фирма "Гермес" и контрольный банк Австрии.

Как рассказал корреспонденту БелТА генеральный директор завода Юрий Феоктистов, первые два года металлурги будут выплачивать кредиторам лишь процентные взносы, что свидетельствует о прочном доверии предприятию и его высоком престиже на международном уровне. После реконструкции объем производства проката увеличится почти в два раза, значительно изменятся качественные показатели продукции и ее товарный вид.

**Виктор КОТОВ.**

## Вывозят, воруют, да еще и маскируют...

С начала нынешнего года сотрудники столичной милиции выявили более 4 тысяч экономических преступлений.

Как сообщили БелТА в Главном управлении внутренних дел Мингорисполкома, среди них почти четверть относится к так называемым "замаскированным" хищениям, в том числе в крупных и особо крупных размерах. В ходе оперативных мероприятий вскрыто около 200 фактов взяточничества.

В процессе реализации мер по защите потребительского рынка правоохранительные органы провели десятки тысяч оперативно-розыскных и профилактических мероприятий. Возбуждено 4 уголовных дела, составлено почти 2 тысячи протоколов. Оперативники выявили более трех десятков попыток незаконного вывоза за пределы республики товаров на сумму 27 миллиардов рублей.

## На елку — во Франкфурт-на-Одере

Еще осень, но в Витебске уже "запахло" новогодней елкой. Причем 15-метровой, которая со всеми своими игрушками и огнями расположится перед городской мэрией Франкфурта-на-Одере.

Дело в том, что в Витебск пришло приглашение от города-побратима на франкфуртскую рождественскую ярмарку, которая уже 27 ноября начнет свою работу и продлится почти месяц. Витебчане смогут не только полюбоваться елкой, но и представить свою продукцию в торговых павильонах. Для товаропроизводителей из города на Двине устроители престижной в Европе ярмарки предусмотрели ряд льгот.

**Ольга СИДОРОВИЧ.**

## Дома придут с конвейера

К верстке программы 1999 года приступил "Витебскоблсельстрой". Ставка делается на применение продукции повышенной готовности, которая будет сходить с конвейера Фариновского домостроительного комбината, расположенного в Полоцком районе. Речь идет об одноквартирных домах новой серии.

Предполагается возвести в следующем году на селе 420 усадеб, тогда как в этом году основная сельская строительная организация области сдаст в эксплуатацию 161 квартиру.

**Ольга ПЕТРОВА.**

## Керчь стала шестым побратимом Могилева

Договор о побратимских связях между Могилевом и Керчью подписали сегодня руководители двух этих городов. Комментируя документ, председатель Могилевского горисполкома Дмитрий Сивицкий отметил, что выигрыш от этого сотрудничества получат как жители, так и все отрасли народного хозяйства и социальной сферы. У города есть возможность для создания совместных предприятий. Крымскую делегацию заинтересовала продукция предприятий машиностроения и легкой промышленности. А Могилев да и в целом область нуждаются в поставках крымских рыбных изделий, риса, кормовых добавок для птицефабрик. И, конечно же, будут решаться проблемы оздоровления горожан , особенно детей, в южных здравницах.

Керчь стала шестым побратимым городом Могилева. Ранее такие связи установлены с французским городом Виллербаном, немецким Айзенахом, словацким Бардеовом, польским Влоцлавеком и литовской Клайпедой.

**Николай ВАСИЛЬЕВ.**

Происшествия

## Жертвы заверяли расписки собственной кровью

Компания кровожадных рэкетиров, державшая в страхе жителей районного центра Белыничи, арестована и изолирована. У своей жертвы они сначала требовали двести или триста долларов США. Просто так, потому что они крутые парни и гони им эту сумму. Если же у человека нечем было откупиться или он отказывался платить дань, то его избивали до крови. Затем садисты заставляли несчастного написать расписку, что он должен им эти доллары. Этот собственноручно написанный долговой документ под страхом новых побоев потерпевший заверял не только своей подписью, но и отпечатками пальцев, обмакнув их в собственную кровь.

Таким методом вымогатели требовали двести "зелененьких" у неработающего жителя районного центра, у которого вообще не было никаких денег. Избив его, разбойники прихватили с собой его кровавую расписку, которая впоследствии стала одной из обвинительных улик. У второго жителя Белынич вымогатели потребовали 250 долларов. Но этих денег у него также не оказалось. Грабители забрали в его доме золотые и другие вещи, засчитав их в общей сложности за 50 долларов. А остальные двести он должен был принести в назначенное время и место. Но эта встреча не состоялась. Рэкетиров уже арестовали работники милиции.

Как сообщили корреспонденту БелТА в Могилевском управлении комитета по борьбе с организованной преступностью и коррупцией при МВД Республики Беларусь, в состав разбойной группы входили двое могилевчан и один местный белыничский. Всем им уже под тридцать лет. Никто нигде не работал, промышляя рэкетирством. Двое уже были ранее судимы. Теперь эта участь ждет всю тройку.

**Николай НАЗАРОВИЧ.**

## ЖСК спешит на помощь

30 тысяч витебчан нуждаются в улучшении жилищных условий. По мнению заместителя председателя горисполкома Геннадия Грицкевича, смягчению жилищной проблемы, для разрешения которой даже при нынешних темпах строительства понадобится 20 лет, способствовало бы увеличение субсидирования ЖСК, и не только для молодежи. В следующем году планируется сформировать 14 ЖСК из будущих новоселов, которые ждут своего часа в так называемой общей очереди.

**Ольга СИДОРОВИЧ.**

Знак качества



## Надежный кабель мозырян

До сих пор кабель для компьютерной техники использовался только импортного производства, приобретенный за валюту.

"Витую пару" разработали мозырские кабельщики. Аналогов этому кабелю ни в Беларуси, ни в России нет.

**На снимке:** *инженеры отдела маркетинга Жанна Кравченко и Евгений Окшин проверяют соответствие параметров очередной партии "витой пары" перед отправкой потребителям.*

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА.**

## Акции "Брестстройтранс" выставлены на продажу

Государственный пакет акций акционерного общества "Брестстройтранс" будет продан в ходе открытого конкурса, который состоится 9 декабря. Министерство по управлению государственным имуществом и приватизации республики приглашает к участию в торгах отечественных и зарубежных инвесторов.

Удельный вес пакета акций, выставленного на продажу, составляет в уставном капитале общества 16 процентов. Их новым собственником станет тот конкурсант, который предложит наиболее перспективную схему развития производства, а также возьмет на себя обязательство не менять профиль деятельности предприятия.

**БелТА.**

## Сад вниманию рад

Производство плодов и ягод во всех категориях хозяйств республики в нынешнем году, по сравнению с предыдущим, снизилось на 26 процентов и составило 267 тысяч тонн.

В числе основных причин снижения сборов плодов и ягод в частном секторе начальник отдела по производству и торговле плодоовощной продукцией и картофелем Минсельхозпрода Александр Белоусов назвал недостаточную работу населения по уходу за садами и ягодникам. Он также подчеркнул, что большинству садов, особенно в деревнях, уже 20—30 лет, и они не способны активно плодоносить.

**Олег ШВЕДОВ, БелТА.**

## Соскучились по полушубкам?

В ближайшие годы дефицит изделий из овчины и овечьей шерсти будет в значительной мере преодолен. Об этом корреспонденту БелТА заявили в главке животноводства Минсельхозпрода.

Программой, разработанной в аграрном ведомстве, предусматривается поэтапная реанимация овцеводческой отрасли. В частности, овечьи атары будут концентрироваться в тех районах и хозяйствах, которые специалисты посчитают наиболее подходящими для этих целей. Здесь же планируется создать и подсобные цеха по первичной обработке овечьих шкур и шерсти.

**Олег ШВЕДОВ.**

## Везде рады отрядам

Минсельхозпрод объявил о намерении увеличить в будущем году количество механизированных отрядов, создаваемых в районах для помощи колхозам и совхозам в проведении весеннего сева, заготовке кормов и уборке зерновых культур.

Заместитель министра сельского хозяйства и продовольствия Франц Минько сказал корреспонденту БелТА, что эти отряды в нынешнем году доказали свою большую эффективность. Выработка на один "отрядовский" зерноуборочный комбайн на минувшей жатве оказалась на 5—7 процентов выше среднереспубликанской. Кроме того, отряды отличает надежная техническая оснащенность, высокая маневренность, а также, что немаловажно, надлежащая дисциплина механизаторов и водителей.

**Олег ШВЕДОВ.**

## Сбылась мечта госпожи У Сяоцю

Первый в нашей республике белорусско-китайский информационный центр распахнул свои двери для тех, кого интересуют более глубокие знания о дружеской, но географически очень далекой стране. Он расположился в одном из общежитий Белорусской государственной политехнической академии по проспекту Скорины, 63.

— Открытие этого центра способствовало осуществлению моей заветной мечты — дать гражданам Беларуси больше знаний о Китае, — заявила Чрезвычайный и Полномочный посол Китайской Республики в нашей стране У Сяоцю на презентации центра. Она выразила благодарность за проявленный энтузиазм инициатору его создания — Белорусской молодежной ассоциации "Китай-2000".

**Валентина МЕНЬШИКОВА.**

## Стало холодно несушкам

Закупки яиц в хозяйствах всех категорий за 10 месяцев текущего года по сравнению с соответствующим периодом прошлого года уменьшились по стране на 98,7 миллиона штук.

**Олег ШВЕДОВ.**

## Зима застала врасплох

Первый снег на Гомельщине в буквальном смысле слова выбил почву из-под колес автомобилей. В областном центре сплошь и рядом появились транспортные пробки, а число дорожно-транспортных происшествий во всем регионе увеличилось в 3—4 раза.

В районе деревни Борщевка Речицкого района из-за плохой видимости произошло встречное столкновение двух автомобилей. В результате аварии погибли 36-летний работник АО "Гомельстекло" и его жена. Ехавшая с ними пассажирка с тяжелыми травмами доставлена в больницу.

**Виктор КОТОВ.**

## Будем звонить друг другу по "сотовому"

Перспективы развития в республике системы сотовой связи обсуждены на встрече с журналистами в Министерстве связи.

По словам министра Владимира Гончаренко, в результате тендера, проведенного межведомственной конкурсной комиссией, лицензиатом на строительство, эксплуатацию и предоставление услуг национальной сети сотовой радиотелефонной связи станет совместное предприятие "Мобильная цифровая связь". Оно создано белорусскими организациями совместно со швейцарской компанией "СБ Телеком". Кстати, контрольный пакет в уставном фонде совместного предприятия принадлежит белорусской стороне.

Совместное предприятие начнет коммерческую эксплуатацию сети в столице в начале будущего года. В течение последующих 18 месяцев такая сеть должна распространиться на территорию, на которой проживает не менее 50 процентов населения страны, а также основную автомагистраль Брест — Минск — граница с Россией. Уже завершена работа по выбору контрагента на поставку оборудования. Победу в остром соперничестве с известными фирмами "Алкатель", "Сименс", "Моторола" одержала компания "Эрикссон Никола Тесла".

Месячная абонентская плата для белорусских пользователей определена пока в размере 25 долларов США. Однако, по заверению министра связи Владимира Гончаренко, будут приниматься меры к тому, чтобы уменьшить тарифы. Тогда сотовая связь станет доступной любому гражданину страны. Он добавил, что объем инвестиционных вложений в развитие системы сотовой связи в республике составит около 80 миллионов долларов на протяжении пяти лет. Это позволит обеспечить современными средствами связи около 70 процентов населения страны.

**Игорь ХОМИЧ.**

Криминал

## Горе-валютчики приносят доход не только себе

Свыше 137 тысяч долларов обратили в доход государства сотрудники столичной милиции за десять месяцев этого года в результате пресечения незаконных валютных сделок.

По информации, полученной БелТА в ГУВД Мингорисполкома, кроме валюты США, правоохранительные органы изъяли у правонарушителей более 20 тысяч немецких марок, почти 270 тысяч российских и свыше 12 миллиардов белорусских рублей. По фактам незаконных валютных сделок возбуждено 155 уголовных дел, составлено 4,5 тысячи административных протоколов.

С начала текущего года зарегистрировано свыше 600 случаев сбыта фальшивых купюр. Из оборота выведено огромное количество фальшивок: 70 тысяч долларов, 5,5 тысячи дойчмарок, 1,1 миллиона итальянских лир, 1,7 миллиона российских рублей и почти 2,5 миллиона "зайчиков".

**БелТА.**

